# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 52 (1598) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 28 СНЕЖНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.


## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

22 лістапада 1986 г. на сваім пасяджэнні Прэзідыум ГП займаўся пытаннямі беларускага аматарскага руху — стан, патрэбы і перспектывы развіцця самадзейнасці БГКТ. У мінулым культурна-асветным сезоне, які праводзіўся пад лозунгам 30-годдзя БГКТ і „Нівы", добра адрэкамендаваліся нашы народныя калектывы, праводзіліся цікавыя культурныя мерапрыемствы, хаця не хапала музычных інструментаў, апаратуры і ўбораў. Аднак наглядаецца ажыўленне аматарскага руху. Новая з'ява сярод нашых калектываў — гэта вакальна-інструментальная група „Дубіны", калектыў а'капэла „Звон" і тэатр паэзіі „Парнас".

Прэзідыум ГП выказвае гарачую падзяку ўсім удзельнікам беларускага аматарскага руху, усім калектывам, іх кіраўнікам і інструктарам, а таксама арганізатарам культурных мерапрыемстваў за ўклад у грамадска-культурнае жыццё БГКТ у 1986 г.

У далейшым Прэзідыум ГП зацвердзіў праект плана „Беларускага календара на 1988 г., яго рэдактарам будзе М. Гайдук. Разгледзеў таксама інфармацыю аб выкананні бюджэту ГП за 10 месяцаў 1986 года.

В. Луба



І лягла ціпыня ў бары за гарой... Фота Я. Целушэцкага.



## НЕ ЎСЁ ЗАЛАТОЕ, ШТО БЛІШЧЫЦЬ

У апавяданні Міры Лукшанкі „Дзіўны хлопец" (сорак чацверты нумар „Нівы") прачытаў я пра Галю і Юрку, пра два характары.

Галя — гэта штучная прыгажуня, лялечка з чырвонымі кіпцюрыкамі, як у маладога чарцяняці, якая адно добра разумее: дзе б тут гульнуць?! Смаліць яна папяроскі, бо ж яна студэнтка. А Юрка — просты хлопец, якіх убачыш усюды, працавіты і са спецыяльнасцю, сумленны і не курыць і,можа, гарэлкі не бярэ ў вусны. Аднак жа ён утрэскаўся ў тую Галю, бы чорт у сухую вярбу! Хоча жаніцца з ёю.

Галя нэндзіць, перабірае хлопцаў, усё роўна што гнілкі ў сене, не трактуе добра Юрку, бо ж ён не студэнт, бачыце. Ён не ўмее гладка гаварыць, хораша ашукваць, таму яна не шануе яго (бабе давай гожага ілгуна!). Юрка, як кожны разважны кавалер, перастаў траціць час на безнадзейныя залёты да Галі і пашукаў сабе адпаведную пару. Яна, Галя, не хацела яго, толькі за нос вадзіла для забаўкі якое. Аднаго разу Галя даведваецца, што Юрка жэніцца, як яна кажа — „з фабрычнай дзяўчынаю". Галя не можа зразумець, як гэта магло здарыцца, каб паненка з фастаўскага камбіната стала цікарнай ад Юркі. Як гэта ён даў рады дабрацца да тае дзеўкі, сам будучы такім дзівакам нейкім? Мне дзіўна, што тая Галя так дзівуе. Я, вядома, не хвалю таго, што сёння дзяўчаты выходзяць замуж, будучы ўжо „з жыватамі". Але хачу пахваліць Юрку, што ён кінуў гэтую пустую Галю і рашыўся пашукаць сабе сур'ёзную кандыдатку на жонку. Бо, калі „фабрычная дзяўчына" любіць працу, то будзе яна любіць і мужа свайго, Юрку. І будуць яны жыць у шчасці і дабрабыце. Багатым без працы можа быць жулік або зладзюга які, і то да часу, пакуль не сядзе ў турму.

Я ўжо даволі пажыў на свеце, каб не заўважыць, што дзяўчаты, якія вельмі перабіраюць у жаніхах, выходзяць замуж кепска. Праўда, часта выходзяць яны за гожых бамбізаў, але нічога добрага ў такіх муж-

(Працяг на стар. 4)

## МІНІСТЭРСТВЫ АДКАЗВАЮЦЬ

Беларускае грамадска-культурнае таварыства сістэматычна пашырае і ўдасканальвае супрацоўніцтва з мясцовымі арганізацыямі і ўладамі ў сваім асяроддзі.

У гэтым годзе, а ўжо другі раз у гэтай кадэнцыі, адбылося супольнае пасяджэнне прэзідыумаў Ваяводскай рады ПРОН і Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае важным пытанням ў дзейнасці нашага Таварыства. Прынятыя пастановы былі накіраваны ў адрас адпаведных улад.

Цяпер Ваяводская рада ПРОН атрымала адказы з Міністэрства асветы і выхавання і з Міністэрства навукі і вышэйшага школьніцтва.

Міністэрства асветы і выхавання ў дакуменце, прысланым на імя прафесара Пятра Бораня, старшыні Ваяводскай рады ПРОН, сцвярджае, што ўважліва пазнаёмілася з прапановамі БГКТ і згаджаецца з тым, што неабходна хутка апрацаваць новыя праграмы навучання беларускай мовы ў агульнаадукацыйных ліцэях. Міністэрства інфармуе адначасова, што ў гэтым годзе заканчваецца праца над праграмамі моваў нацыянальных меншасцей для падставовых школ і ў будучым годзе плануецца падрыхтаваць праграмы для ліцэяў.

Пасля зацвярджэння праграм навучання Міністэрства адразу ж прыступіць да падрыхтоўкі падручнікаў беларускай мовы ў агульнаадукацыйных ліцэях. У сучасны момант у падрыхтоўцы знаходзяцца падручнікі беларускай мовы для III і VI класаў падставовай школы. Тэрміны іх выдання: 1987 год — для III класа і 1988 год — для VI класа.

Міністэрства просіць Таварыства запрапанаваць людзей, якія маглі б заняцца апрацоўкай праектаў праграм і падручнікаў. Школьнае выдавецтва чакае прапаноў адносна аўтара метадычнага даведніка па беларускай мове.

Адносна прапаноў уключэння у праграмы навучання гісторыі пытанняў па гісторыі нацыянальных меншас-

(Працяг на стар. 3)

З Новым Годам!

## НА МЯЖЫ

### АБ САМАЕДСТВЕ (1)

Чытаю „Ніву“ і часта хапаюся за галаву. Не магу зразумець, адкуль бярэцца ў некаторых аўтараў столькі злосці, нянавісці да сваіх братоў па пяру, такіх, як і яны, аўтараў „Нівы“. У мяне самога востры язык і часта я атакую розныя з'явы ў нашым жыцці. Аднак ніколі не кіну каменем у праяў беларускай актыўнасці. Мы павінны беспардонна атакаваць праявы беларускага бяздзеяння, беларускага сервілізму, беларускага апартунізму, беларускага рэнегацтва, беларускага халуйства, але ні ў якім выпадку — беларускага дзеяння. На маю думку, усе аўтары „Нівы“ — прадстаўнікі беларускай актыўнасці. І трэба толькі цешыцца, што яны пішуць і пішуць так многа. Калі чытаю некаторыя выказванні карэспандэнтаў, якія, як правіла, змяшчаюць свае артыкулы ў „Адгалосках“ але не толькі, дык мне здаецца, што ёсць у нас катэгорыя асоб, якія чытаюць „Ніву“ толькі з адным намерам — спляжыць якога-небудзь аўтара, абліць яго памыямі, ачарніць, згнаіць. Адкуль у беларусаў, якія славяцца дабратой, столькі нянавісці? Ды і да каго? Да сваіх братоў! Па сутнасці, да сваіх аднадумнікаў. Як жа часта адны аўтары прыпісваюць другім дурноту, неўласцівыя кампетэнцыі, ідыятызм. Нярэдка самі пры гэтым карыстаюцца з выдумкі, фікцыі, няпраўды. Прывяду прыклад. У „Ніву“ даволі часта піша Хведар Хлябіч з Рыбакоў. Ведаю яго добра, бо ён з'яўляецца маім дваюрадным дзядзькам. Мне заўсёды здавалася, што Хлябіч — добры, лагодны чалавек. Калі б я, аднак, ведаў Хлябіча толькі з яго палемічных публікацый, то мог бы падумаць, што гэта чалавек з характарам драпежніка і чалавеканенавісніка. Колькі ж у яго катэгарычнасці, самаўпэўненасці і нянавісці. А пры гэтым колькі ж напісаў ён добрага і цікавага, калі пісаў аб тым, што перажыў і бачыў у сваім жыцці. Без гэтых яго артыкулаў „Ніва“ была б намнога бяднейшая. Аднак, вернемся да яго злосці і выдумкі. У адным са сваіх артыкулаў напісаў ён, што рыбацкія „інжынеры, педагогі і інжынеры магістры“ выступаюць супраць таго, што „Ніва“ друкуе артыкулы Барскага, а не друкуе яго артыкулаў. На шчасце або няшчасце, я ведаю рыбацкіх „інжынераў, педагогаў і інжынераў магістраў“ і ведаю, што ім аднолькава добра, калі друкуе Барскі і калі друкуе Хлябіч. Чаму ў такой сітуацыі Хлябіч падпіраецца неіснуючай падтрымкай вучоных аўтарытэтаў — не ведаю. Хачу толькі ад свайго імя заявіць, што мяне цешыць, калі пішуць мае землякі і хачу, каб яны пісалі як мага больш.

Запамяталася мне рэакцыя на мой цыкл „Аб дзяржаўнасці і нацыянальнасці“. Куптэль, які калісь напісаў, што тое, што я гавару — гэта ерунда, бо аб гэтым усім ужо даўно глыбей напісаў Махнацкі. Гэта можа не было б смешным, калі б не было вядома, што Куптэль і Махнацкі — гэта адна і тая ж асоба. І тут Куптэль-Махнацкі ўпадобніўся да дзяўчыны з народнай прыказкі „Мамо, не хваляць нас, дык давайце самі пахвалімся“. Знайшоўся, аднак, нехта, хто абразіў і Куптэля-Махнацкага, і ён перыядычна абражаецца і забірае назад свае артыкулы з „Нівы“. А шкада. Публікацыі Куптэля-Махнацкага сталіся арганічнай часткай пейзажу „Нівы“, і таму заахвочваю майго шаноўнага апанента не абражацца і надалей пісаць. А ў сувязі з тым, што я не абражаюся на тых, хто атакуе маю публіцыстыку, — калі гэта толькі прыносіць ім асалоду, — атакаваць мае перакананні і ідэі.

**Алесь Барскі**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ШКОЛАХ

Вялікі чытацкі водгук выклікала пісьмо віцебскага настаўніка Ф. Сіўко „Прашу вызваліць“ і каментарый пісьменніка К. Тарасава „Закон і вакол закона“, надрукаваныя ў „Літаратуры і Мастацтве“. У гэтых публікацыях былі ўзняты пытанні вывучэння беларускай мовы ў агульнаадукацыйных школах рэспублікі. Аўтары артыкулаў, як і чытачы (разгарнулася шырокая і хвалюючая дыскусія), крытычна ацанілі сітуацыю ў гэтай галіне, паказалі яе вытокі, унеслі канкрэтныя прапановы, якім чынам можна перaадолець хібы ў беларускай асвеце, палепшыць умовы далейшага развіцця нацыянальнай культуры. Быў апублікаваны таксама адказ Міністэрства асветы БССР, з якога, як адзначае „ЛіМ“, вынікае, што ніякіх асаблівых праблем увогуле не існуе, ніякія асаблівыя захады з боку міністэрства не патрабуюцца. Заканчваючы дыскусію, рэдакцыя піша: „Спадзяёмся, што меркаванні і прапановы чытачоў будуць уважліва, па-дзелавому, у духу часу, разгледжаны кіраўнікамі нашай асветы, а таксама Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй адукацыі, Міністэрствам культуры і некаторымі іншымі ведамствамі“.

### „БЕЛАСТОЦКІЯ СУСТРЭЧЫ“

Нядаўна група гродзенскіх журналістаў пабывала на Беласточчыне. І вось 27 лістапада ў „Гродненской правде“ з'явілася творчая справаздача з гэтай паездкі. Сваімі ўражаннямі дзеляцца з чытачамі І. Багіно і В. Коцкі. Пішуць яны пра беластоцкі шклозавод і „Біруну“, крынкаўскі ПГР і родную вёску Сяргея Прытыцкага Гаркавічы. Абшырная публікацыя пад шапкай „У нашых польскіх сяброў“ называецца „Беластоцкія сустрэчы“. Яны, гэтыя сустрэчы, былі для гродзенцаў цікавымі.

### МІНСКАЕ МЕТРО

На год раней тэрміну прайшоў 21 лістапада пробны поезд па новаму ўчастку метрапалітэна, які вядзе да станцыі „Усход“. Яна размешчана ў густанаселеным раёне беларускай сталіцы, жыхары якога хутка атрымаюць магчымасць карыстацца самым скорасным відам гарадскога транспарту.

Датэрміновае завяршэнне работ на пускавым участку падземнай магістралі стала вынікам самаадданай працы метрабудаўцаў, умелага выкарыстання тэхнікі, прымянення арыгінальных інжынерных рашэнняў пры будаўніцтве станцыі і тунеляў.

### МАГІЛЁЎСКІЯ ЛІФТЫ

За пятнаццаць год вытворчае аб'яднанне „Магілёўліфтмаш“ выпусціла каля 100 тысяч ліфтаў. Сёння палавіна пасажырскіх пад'ёмнікаў у Савецкім Саюзе — з магілёўскай маркай. Ідуць яны і на экспарт.

Цяпер канструктары, тэхнолагі і інструментальшчыкі прадпрыемства рыхтуюцца да вытворчасці прыгожых і эканамічных пасажырскіх ліфтаў грузападымальнасцю 400, 600 і 1000 кілаграмаў, хуткасць якіх складзе 1-1,6 метра ў секунду.

### „КУЦЯЯНЕ“

У цэнтры Оршы, у адной з чытальных залаў маладзёжнай бібліятэкі, збіраюцца мясцовыя кнігалюбы на штомесячныя „вячоркі“: з самаварам, нягучнай музыкай, слайдамі і фатаграфіямі і абавязкова! — з цікавай кнігай.

Свой клуб назвалі яны „Куцяяне“. Гэта своеасаблівая даніна павагі сярэдневяковым асветнікам-друкарам з Куцяянскага манастыра, дзе больш чым тры стагоддзі назад быў выдадзены першы беларускі буквар.

На вячорках у аршанскіх кнігалюбаў можна пазнаёміцца з аглядам навінак літаратуры, паспрачацца аб новых аповесцях і раманах, сустрэцца з пісьменнікамі, паслухаць вершы мясцовых паэтаў з літаб'яднання „Дняпроўскія галасы“, атрымаць ганаровае званне „Чытача-эрудзіста“.

### БАРАЦЬБА З П'ЯНСТВАМ

26 лістапада адбылося пасяджэнне рэспубліканскай камісіі па барацьбе з п'янствам. Разгледжана пытанне аб каардынацыі дзейнасці дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам у Фрунзенскім раёне Мінска.

Адзначана, што меры па выкананню антыалкагольнага заканадаўства, якія прымаюцца тут, недастатковыя. У раёне ўсё яшчэ многа фактаў п'янства і ўчынення правапарушэнняў у стане ап'янення. Гэта вынік таго, што ў рабоце райвыканкома, райкома камсамола, праваахоўчых органаў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый адсутнічае належнае ўзаемадзеянне. У іх няма адзінага комплекснага плана з перспектывай на бліжэйшыя гады.

Райвыканкому прапанавана прыняць неабходныя меры для актывізацыі барацьбы за ўсталяванне ў раёне цвярозага спосабу жыцця.

### НЕ ТОЕ „ДЫНАМА“

Закончыўся чэмпіянат СССР па футболу за 1986 год. На жаль, мінскае „Дынама“, якое яшчэ ў мінулым сезоне змагалася за прызавыя месцы, сёлета выступала слаба і апынулася на дзесятым месцы (на 16 каманд вышэйшай лігі). Каманду падверг вострай крытыцы рэспубліканскі друк. Трэба меркаваць, што будуць прыняты і адпаведныя персанальныя меры.




### КРОЎ НА ЗАЛАТЫХ ЗЛІТКАХ

Калі англійскі пісьменнік Райдэр Хагарт у сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя стварыў свой вядомы раман „Капальні цара Саламона“, ён наўрад ці падазраваў, што літаральна праз некалькі гадоў на поўдні кантынента будуць адкрыты такія залежы каштоўных металаў, што нават мастацкая выдумка адступіць перад рэальнай шчодрасцю прыроды: золата і алмазы, уран і плаціна, хром і серабро, рэдказямельныя металы і многае іншае.

Штодзённа больш паўмільёна чорных шахцёраў ПАР спускаюцца ў забой. Не ўсе вяртаюцца ў свае халасцяцкія інтэрнаты (99 працэнтам афрыканскіх гарнякоў гаспадары не дазваляюць жыць са сваімі сем'ямі). Але гэта не хвалюе гаспадароў. Злачынная пагардлівасць да лёсу людзей, хцівасць, імкненне выціснуць з чорных гарнякоў, фактычных паўрабоў, найбольшую выгаду, натуральна ідуць уразрэз з патрабаваннямі тэхнікі бяспекі, на якія гаспадары шахт закрываюць вочы.

На шахце па здабычы азбесту ў Пенту толькі за апошнія 10 гадоў 780 гарнякоў захварэлі сілікозам, а ўзровень запыленасці ў забоях у 260 разоў перавышае максімальна дапушчальны.

Адзін з кіраўнікоў нацыянальнага саюза шахцёраў Паўднёвай Афрыкі М. Голаінг адзначае: „Афрыканскія гарнякі заўсёды накіроўваюцца на самыя небяспечныя ўчасткі ў адрозненне ад белых шахцёраў. Вось чаму штогод каля 15 тысяч афрыканскіх рабочых у горназдабываючай прамысловасці атрымліваюць цяжкія калецтвы. Палавіна з іх поўнасцю трацiць працаздольнасць, а дзве тысячы чалавек гінуць“. Эксплуататарская логіка прымітыўная — загінуць адны, на іх месца прыйдуць іншыя. Бо беспрацоўе сярод цёмнаскурага насельніцтва ПАР складае паводле афіцыйных даных, звыш 6 мільёнаў. Ды і само жыццё паўднёва-афрыканцаў „другога сорту“ ў дзяржаве апартэіду цэніцца зусім не на вагу золата, таго самага, што здабываюць яны для белых гаспадароў і іх заакіянскіх партнёраў.

### ФАЛЬШЫВАБІЛЕТНІКІ

Праезд у муніцыпальным транспарце ў Італіі значна падаражэў. У краіне сталі вырабляцца фальшывыя аўтобусныя білеты. Каштуюць яны паўцаны і карыстаюцца ў насельніцтва вялікім попытам. Друкарню, дзе іх друкуюць, паліцыі ніяк не ўдаецца знайсці. Але па ўсім відаць, што гэтае падпольнае прадпрыемства не з дробных: кожны пяты пасажыр рымскіх аўтобусаў ездзіць з фальшывымі білетамі.

# Няўжо Бог не любіць беларускай мовы?

Мы ведаем, што ў кожнай нацыі ёсць свая мова і што кожны народ моліцца Богу на сваёй роднай, найбольш таму сардэчнай мове. І што святарам з гэтых народаў нават і ў галаву не прыходзіць думка, каб прапаведваць веру на чужой, няроднай мове. Гасподзь Бог не нацыяналіст і не падзяляе мовы на лепшыя і горшыя. Гэта толькі нашы мужыкі забаўляюцца ў „нацыяналізм“ і цвердзяць на смех усяму свету, што беларуская мова іхняя горшая ад польскай ці рускай, ці якое іншае з Еўропы. Нашы святары-беларусы надалей не гавораць сваіх пропаведзяў па-беларуску. Аж дзіўна часам падумаць: чаму гэта яны так робяць? Няўжо Бог не разумее па-нашаму?

Я быў сярод украінцаў за Люблінам. Там у іх у царкве служаць і прапаведуюць па-ўкраінску. Быў я і ў літоўцаў на Сувальшчыне, іх ксяндзы адпраўляюць багаслужбу і казанні гавораць па-літоўску. Толькі мы, беларусы, чамусьці, як тыя сіраты... І чаму мы ўжо так прывыклі, што нашага брата і яго мовы не шануюць нават у храмах, і нам, беларусам, як быццам і добра ў такім адвечным паніжэнні... Некаторыя святары кажуць: мы прапаведвалі б па-беларуску, але парафіяне не дамагаюцца таго. А яны, парафіяне, і не будуць дамагацца, бо яны, як я кажу, увыклі ўжо не дамагацца нічога. Я пакажу гэта на сваім прыкладзе: сядаю ў вагон, натыкаюся на знаёмага, з якім разам еду ў Бельск, гаворым паміж сабою па-беларуску, гэта значыць, па-свойму, і раптам чую я, што розныя людзі ў вагоне, якія гаварылі па-польску або маўчалі, пачалі таксама гаварыць па-свойму між сабою і з сімпатыяй пазіраць на нас двух, бо мы першымі загаварылі. У чым справа? Справа ў прыкладзе, як гэта добра відаць на гэтым здарэнні. Хай святар пачне гаварыць пропаведзь па-беларуску, а сам пераканаецца, што ніхто яго за гэта за полы тузаць не будзе, наадварот, скарыстае ён на яшчэ большай сімпатыі людзей да ягонае асобы, бо людзі ж нашы па-руску разумеюць, але гавораць усё ж па-беларуску.

Мы павінны быць поўныя гонару за сваю мову, нам трэба тут браць прыклад з палякаў і рускіх, і з украінцаў, і з літоўцаў. Чаму гэта мы ставім сябе ў найгоршым святле, самі сябе аплёўваем? Адкуль гэтакая мода пайшла? Ад паншчыны яшчэ? Паншчына ўжо даўно прапала і з нашага характару трэба нарэшце выкараніць дарэшты патрэбу мець сабе пана над сабою і лічыць сябе нічым і нікім! Чымсьці горшым за нуль. Часам, слухаючы нашых людзей, як яны паніжаюцца, аж здаецца, што зараз такі чалавек і скажа так: выбачайце, што я жыву, выбачайце, што мой народ яшчэ жыве, мы даўно павінны прапасці, каб свету не паскудзіць!... Ну, да чаго ж гэта падобнае, людзі дарагія?!

Я перапісваюся са сваімі землякамі. Да мяне піша Леў Стахановіч, які жыве ў Амерыцы. Ён піша пісьмы мне на прыгожай беларускай мове, жывучы далёка ад сваіх, ад Радзімы. Ён не стары чалавек, гэта яго бацька быў у Грамадзе да вайны. Яго радуе, што мы тут някепска жывем і намагаецца дапамагчы нам грашыма ва ўсіх нашых тут грамадскіх справах. На будову Святадухаўскага сабора ў Беластоку ён сабраў сярод беларусаў Амерыкі каля тысячы долараў, і на наш Беларускі музей, што будуем у Гайнаўцы, сабраў ён таксама нямала долараў, каля пяцісот ужо. І далей збірае, і будзе збіраць так доўга, як доўга трэба будзе. Але, разам з тым, ён усё пытае ў мяне: чаму ў цэрквах нашых такая непашана да беларускай мовы, чаму няма яе ў пропаведзі, у багаслужбе тут нашай? Яму прыкра і няясна, і мне таксама прыкра.

Перапісваюся я і з земляком, які жыве ў БССР, з пляменнікам Аляксандрам Юркевічам

(Працяг на стар. 6)

# МІНІСТЭРСТВЫ АДКАЗВАЮЦЬ

(Працяг са стар. 1)

цей, у тым ліку і беларусаў, Міністэрства інфармуе, што гэтыя тэмы закранаюцца ў такіх раздзелах гісторыі, як „Пачаткі Рэчыпаспалітай абодвух народаў“, „Брэсцкая унія“, „Студзеньскае паўстанне“, „Палітыка ўлад у адносінах да нацыянальных меншасцей у II Рэчыпаспалітай“. Новыя праграмы па навучанню гісторыі звяртаюць увагу на рэгіянальную і мясцовую гісторыю, даючы такім чынам магчымасць увесці больш сістэматычны і паглыблены курс, між іншым, і на такія тэмы, як гісторыя беларускага насельніцтва на Беласточчыне ці польска-беларускія суадносіны. Эластычныя і факультатыўныя праграмы гісторыі даюць настаўнікам шырокае поле выбару рэгіянальнай тэматыкі.

Міністэрства лічыць неабходнай дапамогу беластоцкага навуковага асяроддзя ў падрыхтоўцы падручнікаў і іншых дыдактычных сродкаў для вучняў і настаўнікаў, асабліва ў апрацоўцы папулярных манаграфій і іншых матэрыялаў па гісторыі Беласточчыны і яе жыхароў. У новых падручніках для сярэдніх школ ёсць матэрыялы па гісторыі нацыянальных меншасцей. Але яны не заменяць сістэматычнага курсу. Рацыянальным вырашэннем гэтага маглі б быць факультатыўныя заняткі па гісторыі.

Пытанні па гісторыі нацыянальных меншасцей знаходзяцца таксама ў новых праграмах ведаў аб грамадстве для восьмага класа ў раздзеле „Грамадства і народ“. Змест праграмы дае магчымасць шырэйшага разгляду гэтага пытання ў кантэксце крытэрыяў нацыянальнай і дзяржаўнай прыналежнасці.



Новы будынак пачатковай школы ў Старым Ляўкове.

Фота Я. Целушэцкага

У справе падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы адказ прыслала Міністэрства навукі і вышэйшага школьніцтва. У ім сцвярджаецца, што міністэрства ставіць у цэнтры сваёй увагі забеспячэнне пачатковых школ настаўніцкімі кадрамі, у тым ліку і настаўнікамі беларускай мовы. Аб гэтым сведчыць штогадовы набор студэнтаў на 1 год навучання на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Дадатковая форма адукацыі гэта магчымасць выбару беларускай мовы як другой студэнтамі аддзялення рускай філалогіі, што павялічвае патэнцыяльны лік выпускнікоў, падрыхтаваных да навучання беларускай мовы.

Хоць становішча ў падрыхтоўцы настаўнікаў беларускай мовы выглядае задавальняюча, аднак беручы пад увагу сігналізаваныя старшынёй ПРОН патрэбы ў кадрах, міністэрства пачало працу па ўзнаўленню завочнага навучання студэнтаў беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, дзе ёсць патрэбныя да гэтага ўмовы. Улады універсітэта выказалі гатоўнасць весці завочнае навучанне пры ўмове, што будзе запэўнена рэгулярнасць набору прынамсі на працягу двух гадоў не менш чым па 10 чалавек.

Прапанову стварэння Кафедры беларускай філалогіі на філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку міністэрства лічыць пакуль што нерэальнай па прычыне недахопу навуковых кадраў у гэтай галіне.

Здзяйсненне гэтых вельмі карысных для нас рашэнняў абодвух міністэрстваў у вялікай ступені залежыць ад актыўнасці і самаахвярнасці дзеячоў і ўсіх членаў нашага Таварыства.

**Янка Зенюк**

## ТАК БЫВАЕ...

# А ўсё каб нязгода!

Прыйшла я да вываду, што таксама магу замалёўваць жыццё зусім не горш, як гэта робіць Міра Лукшанка. Але не падумайце, што нацэлілася я адбіраць ёй хлеб. Я ведаю такіх людзей, якіх Мірця мо і не ведае, і таму хачу трохі напісаць пра іх.

— Ну, ведаеце, мусіць гэтыя бяздзетныя людзі ўсе яны такія, — расказваў старэйшы мужчына малодшым. — Свята, во, настала, Яна ўжо, а мой гэты сусед бяздзетны, замест на фэст з жонкаю паехаць, падрыпаў на луг сена варочаць. Ён, кажу, бяздзетны чалавек, каму ён усё сваё багацце пакіне? На лысага чорта яму рабіць больш за іншых! Але ён — не, зайшоў на той свой луг ды грабе сена, грабе і грабе. Што ў абарог ужо паклаў быў, а што яшчэ раз паварочвае, каб высахла лепей яно. Урэшце, шчаслівы добраю пагодаю, распрануўся ды разлёгся пазагараць сабе на сонцы. Ляжыць ён гэтак і думае: зараз, во, заграбу і тое сена, што на другі бок луга; людзі паехалі на Яна а я сена, во, нараблю і заўтра сабе адпачыну. Але тут нейк нахмурылася на краю неба, пасля і цалкам надыйшлі хмары, пайшоў дождж. І тады мой сусед як не схопіцца, як не пачне хутка-хуценька апранацца. Апрануўшыся ўжо пад даждж[o]м, вылаяўся ён апошнімі словамі ды павалокся дамоў прамоклы, як тое кацяня, што ўвалілася ў карыта з вадою і, вылезшы з яго, патрухала скундзёбленае ў сухія сені. Як смяюцца часам з такога кацяняці малыя дзеці, так суседзі пасмейваліся з суседа свайго таго, што налакоміўся быў сена нарабіць на Яна. Гэта здарылася ў адной з мясцовасцей Нараўчанскай гміны. І гэты пасмех з няўдалага суседа прыняў форму нават народнай прымаўкі: „Як Ян Яна памачыў!“ (сусед так зваўся Іван, Ян).

Гэтае здарэнне ўпэўніла мяне ў ненаеднасці бяздзетных людзей.

І яшчэ адна гісторыя з бяздзетнымі, якую я ведаю. Жылі адны людзі на даволі добрай гаспадарцы, стараватыя ўжо, і таму наймалі ў жніво маладую жняю — жыта жаць, аўсы, ячмень. Маладая тая была бедная, ахвотна наймалася, каб свае грошы мець. А ў тыя часы палуднавалі не тады, калі трэба было, але тады, калі самім гаспадарам захацелася есці. Вось і прывялі маладую жняю на палудзень дадому, бо поле блізка сядзібы было. Пасадзіла старая гаспадыня сваю работніцу за стол у хаце і кажа: а што я табе дам есці? Мо тварагу разраблю... І накрышыла яна сыра ў малако, пасаліла. Ой не, закрычала работніца, я гэтага не буду есці, намяшалі вы якойсьці бурлягі! Слова па слове, і старая гаспадыня дала ёй яек выпіць, а на вячэру паабяцала, што з'ядуць у полі кавалачак кумпяка з хлебам. Яна на вачах работніцы ўзяла ўсё гэта, загарнула ў анучку, а ў полі схавала пад

(Працяг на стар. 6)




(Праняг са стар. 1)

чын не бывае — калі не п'яніца. то бандзюк, а калі не бандзюк, то лайдак і набабнік. А дзеці іхнія адразу родзяцца як бы паўсіратамі, такімі бязбацькавічамі. Відаць, ёсць трохі рацыі ў прымаўцы: у бабы волас доўгі, а розум кароткі. Не ўсё ёсць залатое, што блішчыць, уцякай ад такога чалавека, які многа гаворыць пра сваю разумнасць і здольнасць добра жыць, бо гэтакі напэўна ілжэ, камбінуе. Не пахваляю і ўсіх хлопцаў, асабліва кручаных на ўсякія лады, якія таксама, як правіла, даскачуцца да сваёй бяды, а часта жэняцца так, што потым ганебна ім робіцца пайсці са сваёй жонкаю ў госці куды.

Усяляк бывае ў жыцці. Але заўсёды лепей, калі людзі цэняць цябе як разумнага, а не толькі ты сам сябе. Гэта небяспечна ў жыцці быць свята перакананым у сваёй разумнасці. Справа ў тым, што чалавек не вельмі бачыць свае грахі.

**М. Панфілюк**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na felieton „Wioska Morze" zamieszczony w nr. 39 (1585) „Niwy" wyjaśniamy.

Zarzut dotyczący zerwania nawierzchni drogi przez wykonawcę jest niesłuszny, gdyż kolektor wodociągu układano na poboczach, zaś przejścia podłączeniowe wykonywane były metodą przebić nie powodującą zrywania nawierzchni drogi. Zły stan drogi przez wieś spowodowany jest wyeskploatowaniem nawierzchni jak również następstwem nie wykonywania przez okres kilkunastu lat remontów bieżących oraz konserwacji jezdni. Droga we wsi Morze jest drogą wojewódzką, w związku z czym utrzymanie jej leży w gestii Rejonu Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim.

Działalność kulturalno-oświatowa we wsi prowadzona jest na bazie klubu „Ruch", przy którym istnieje również punkt biblioteczny. Warunki lokalowe nie są najlepsze — klub mieści się w starym budynku i ze względu na ograniczoną jego powierzchnię, nie można w nim utworzyć sali widowiskowej. Organizatorem pracy w klubie jest ZMW oraz koło LZS. Młodzieży we wsi jest niewiele, szczególnie brak jest dziewcząt, dlatego też działalność kulturalna jest ograniczona. Stwierdzenie jednak jakoby w Morzu nic dosłownie się w życiu kulturalno-oświatowym nie działo jest błędne, gdyż organizowane są występy, wieczorki i dyskoteki. W bieżącym roku zorganizowane były spotkania z literatem białoruskim i oficerem LWP. W każdą niedzielę przyjeżdża kino objazdowe, dla dzieci i młodzieży organizowane były występy teatrzyku kukiełkowego z Białegostoku. Aktywnie działa wiejskie koło LZS, które uczestniczy we wszystkich imprezach i rozgrywkach sportowych. W klubie jest prowadzona praca z dziećmi w kółku plastycznym. Ludność wsi w czynie społecznym odremontowała klub oraz uporządkowała jego otoczenie.

Naczelnik gminy w Czyżach
**Bazyli Nowik**
Czyże, 27.10.1986 r.

### ЖЫЦЦЁ КНІЖКІ

Валянціна Весялоўская вядзе філію бельскай гміннай бібліятэкі ў Пасьпіках. У яе ўжо немалы, трыццацігадовы вопыт гэткай работы. Цяпер у яе сто семдзесят чытачоў, у большасці гэта школьнікі. На восем з паловаю тысяч усіх кніжак яна мае ў сваім распараджэнні 750 беларускіх кніжак і столькі ж рускіх. Да філіі належыць восем бібліятэчных пунктаў, у якіх звыш трох тысяч кніжак, — у Саках, Суботцы, Зубаве, Кожыне, Піліпках, Трашчотках, Мякішах, Локніцы.

**А. Гаўрылюк**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ




*Сялянскі панадворак у в. Рогаўка Сямяціцкай гміны. Мал. Уладзіслава Петрука.*

### УСЁ ЦЯЖЭЙ ДЫХАЕЦЦА

Усё цяжэй дыхаецца ў Бельску ці ў Гайнаўцы. Паветра ўсё цяжэйшае ў гэтых прамысловых гарадах, запыленае і задымленае не толькі мноствам аўтамашын з дрэнна адрэгуляванымі маторамі, але і фабрыкамі ды заводамі. А паветра вельмі важнае — без хлеба чалавек можа пражыць нават доўга, а без паветра пражыве не больш як пяць мінут, і капец. Апрача фабрык і заводаў, што яшчэ забруджае нам паветра? Аказваецца, паравозы, катлоўні, паленыя сметнікі. Гэта толькі нам так здаецца, што ўсякі дым вецер развее... Развеяць то ён развее, але ў паветры гэты дым і так застанецца, хоць і развеяны ўжо. І мы ўдыхаем у свае лёгкія ўсю тую брыду, якая вылятае ўгару.

У некаторых месцах Бельска і Гайнаўкі — цвердзіць „санэпід" — узровень забруджання паветра пагражае ўжо цяжкімі хваробамі лёгкіх і сэрца. Вядома, дзе: каля скрыжаванняў і каля фабрык. А яшчэ мы не памятаем і аб тым, што, напрыклад, цяперашняя мэбля вельмі шкодная для здароўя. Гэтая мэбля робіцца не з натуральнага дрэва, а з усялякае клейкі або плітаў, у якіх шмат ракатворных субстанцыяў (асабліва шмат гэтых хімічных рэчываў знаходзіцца ў рэгалах і ўсякіх штучных дыванах). Гэта нават крыўдна: за свае, немалыя грошы, купляеш хваробу ў дом. Менш шкодзіць шыфер (этэрніт), з увагі на тое, што гэта матэрыял на дах і там яго пастаянна прадувае вецер. „Санэпід" даўно забараніў карыстацца жужалем, але, бачу, сёй-той нават пустакі з таго жужалю лепіць, як бы і не чуў пра радыёактыўнасць гэтага матэрыялу...

Ужо старажытныя грэкі гаварылі, што каб жыць, трэба чалавеку — зямлі, вады, агню і паветра. Зямлю мы цяпер атручваем хімікатамі, мінеральнымі ўгнаеннямі, якімі не вельмі яшчэ ўмеем карыстацца. А з вадою што мы зрабілі, з чысцінёю рэчак і азерцаў, то ўжо і сляпы бачыць. Цяпер узяліся мы знішчажаць паветра. Яшчэ толькі агню не даем рады зашкодзіць, але, хто ведае...

**Андрэй Гаўрылюк**

## БЕЛАРУСІКІ

**1976**


**Burak Leanid:** Dałuczennie u suczasnaj bielaruskaj mowie. Mińsk 1975. Rec. Pisarek Larysa, Slavia Orientalis 1976, nr 3, s. 405—407.

**Grek-Pabisowa Iryda:** Gwara starowierców a północno-wschodnie gwary białoruskie (cechy fonetyczne). Acta Baltico-Slavica t. 9, 1976, s. 211—218, mapy.

**Jasińska-Socha Teresa:** Zaimek 3 osoby w zabytkach starobiałoruskich XVI wieku a stan we współczesnym języku białoruskim. Slavia Orientalis 1976, nr 4, s. 509—512.

**Kondratiuk Michał:** Mikrotoponimy litewskie od „dugnas", „karklynas", „violugiris" w gwarach polskich i białoruskich Białostocczyzny. Acta Baltico-Slavica t. 9, 1976, s. 219—224.

**Kwaśniewski Krzysztof:** Mniejszości narodowe a świadomość narodowa. Studia Socjologiczne 1976, nr 2, s. 93—117, tabl.

**Maciejuk Alicja:** Polskie badania nad ludową demonologią białoruską w latach 1815—1831. Euhemer 1976, nr 4, s. 63—73.

**Obrębska-Jabłońska Antonina:** Białoruska fleksja męskich nazw osób na -a, -ja na tle starosłowiańskim i staroruskim. Studia Rossica. Uniwersytet Warszawski 1976, t. 1, s. 89—97.

**Pobol Leonid:** Sławianskije driewnosti Biełorussii. Cz. 1—3. Mińsk 1971, 1973—1974. Rec. Godlowski Kazimierz, Sprawozdania Archeologiczne R 28, 1976, s. 312—318.

**Smułkowa Elżbieta:** Akcentacja rzeczowników w białoruskim systemie gwarowym wsi Knyszewicze powiatu sokólskiego. Studia Rossica Uniwersytet Warszawski 1976, t. 1, s. 103—121.

**Topolska Maria:** Książka na Litwie i Białorusi w latach 1553—1660 (Analiza statystyczna). Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. 21: 1976, s. 145—164, tabl., wykr.


**Р.С.**

## З-ПАД ПІЛАТОЎШЧЫНЫ У ПАРЫЖ

**Валеры Врублеўскі нарадзіўся 27 снежня 1836 г. у сям'і шляхціца ў Жалудку каля Ліды.**

**Гэта той самы Валеры Врублеўскі, які ў трыццаць пяць гадоў камандаваў адной з трох армій Парыжскай камуны, выратаваўшыся з разгрому паўстанскага атрада пад Пілатоўшчынай, што каля Гарадка (у Каляду 1864 г.). Пра гэтага чалавека Ленін напіша потым, што з яго імем звязаны найвялікшы рух пралетарыяту ў XIX стагоддзі. Врублеўскі — сябар Маркса і Энгельса. Дарога да гэтага сяброўства вяла праз маладую дружбу з Кастусём Каліноўскім, дружбу і супольныя з ім беларускія справы. Гэта яны рабілі „Мужыцкую праўду", пісалі яе па-беларуску, друкавалі і раскідвалі па дарогах ды вёсках, мястэчках.**

**Няшмат ведаем мы пра тутэйшую дзейнасць іх, пра тадышняе жыццё Валерыя Врублеўскага ў прыватнасці. Гаварыць пра яко, не гаворачы трохі і пра Каліноўскага, немагчыма, настолькі неразлучнымі яны былі (ёсць меркаванне, што шосты нумар „Мужыцкай праўды" цалкам напісаў і выдаў менавіта ён, Врублеўскі). І адзін і другі не былі мужыцкага роду, гэта праўда. Яны і не маглі быць іншымі ў той паншчынны час: асвета і культура халопу былі недаступны. Рэвалюцыі не пачынаюць жа людзі цёмныя, непісьменныя, яны могуць толькі пайсці за ёю або не пайсці, а гэта ўжо зусім іншая праблема. Нас цікавіць якраз сама асоба Врублеўскага, паўтаравечча нараджэння якога летась адзначаем.**

Врублеўскі, як Каліноўскі, як і ўсё іхняе пакаленне рэвалюцыянераў, канчаў вышэйшыя навукі ў сталічным Пецярбурзе, самым неспакойным ды інтэлігентным горадзе Расійскай імперыі. Расія, пасля ганебнай для яе Крымскай кампаніі і смерці няслаўнай памяці імператара Мікалая I, перажывала землетрасенне свайго роду, валіўся ў ёй феадальны лад, адыходзіла з гэтага свету паншчына, апошняе ў Еўропе нявольніцтва. Напоўнены ўзнёслымі ідэямі свабоды і роўнасці, якімі шумела студэнцкае народніцкае падполле, усякія гурткі, славуты гурток Зыгмунта Серакоўскага, — Врублеўскі прыязджае ў нашу Саколку працаваць на пасадзе інспектара лясной школы. Быў 1861 год, год апавяшчэння маніфеста імператара Аляксандра II аб паступовай ліквідацыі прыгону.

Саколка з сярэдзіны дзевятнаццатага стагоддзя — гэта глухое мястэчка накшталт вяліз-

(Працяг са стар. 3)

## Няўжо Бог не любіць беларускай мовы?..

Ён малады зусім, яму ўсяго за дваццаць гадоў. І піша гэтак жа прыгожай беларускай культурнай мовай мне. Яго здзіўляе, чаму нашы беларусы, жывучы на сваёй бацькоўскай зямлі, у сваім доме, чуюцца, як нейкія чужынцы, тояць сваё паходжанне, быццам злое што нарабіўшы. Гэта ж і смешна, і трагічна, калі мець на ўвазе тое, ці чуемся мы людзьмі ўжо. Янчэ Купала заклікаў, у пачатку нашага веку, каб людзьмі мы зваліся, а гэта значыць: каб мелі людскія адносіны да саміх сябе, каб не гнуліся невядома чаго ад парабкаўскіх якісьці паклонаў!

Мой бельскі сябар, разьбяр Міхась Вайткевіч неяк расказаў мне, як праваслаўныя беларусы мелі прэтэнзіі да святара-бацюшкі за тое, што ён гаворыць не на іх мове, і як бацюшка той не ведаў, што і адказаць ім...

Трэба канчаць з ненармальным становішчам беларускай мовы ў царкве. Час зрабіць тое мінуў даўно, і мы з гэтай справаю ўсё чамусьці не вылезлі з мінулых вякоў. Даўней так было: мужыка не лічылі за чалавека, і яго мова была ў пагардзе хоць Хрыстос не навучаў пагарджаць людзьмі і іх мовамі. : сам ён гаварыў на мове свайго народа, гэта значыць, па-арамейску (мова цяперашняга паўночнага Ізраіля і паўднёвага Лівана, яна захавалася ў некаторых горскіх рэгіёнах).

**Андрэй Гаўрылюк**, Бельск

* * *

**УВАГА!**
**УЖО ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ...**

...апублікуем Каляндар „Нівы" на 1987 год. Як заўсёды — з праваслаўнымі святамі і імянінамі. Просім паведаміць аб гэтым сваіх суседзяў і знаёмых.

* * *

(Працяг са стар. 3)

## А ўсё каб нязгода!

снапок, нібы каб дзевер не згледзеў і не ўплёў перад імі. Аднак жа здарылася якраз так: дзевер, возячы снапы ў клуню, знайшоў гэту спажыўку і падумаў, што гэта яго жонка так прыхавала сабе лепшую ежу, у таямніцы перад ім і дзецьмі нават. І ўзяўся крычаць на яе пры ўсіх, і пры той работніцы, і нават біць моцна. Работніца кажа гаспадыні, каб яна што зрабіла, спыніла гэты скандал, сказала праўду, але старая толькі крыва ўсміхнулася: чорт іх не пабярэ, не пазабіваюцца...

Бяздзетная жанчына чамусьці вельмі не любіць тых, у каго ёсць дзеці.

А тая бойка ў полі цягнулася б, можа, і даўжэй, калі б работніца не вытрывала лямanту і не расказала пра ўсё таму дзеверу (г.зн. брату мужа). Старая гаспадыня толькі маўчала на гэтыя словы. Дзевер сказаў: я не ведаў, я думаў, што гэта мая так хітраваць ужо пачала...

Але, колькі было ціхай радасці ў тае старой бяздзетухі, што так лоўка ўдалося ёй пасварыць дзевера з сваёй жонкаю. На вёсцы вельмі любяць, каб хтосьці з кімсьці пасварыўся, а ўсё каб якаясьці нязгода была.

**Аўрора**

## Бібліяграфічны куточак

Konrad Kucza-Kuczyński — Cerkiew w Hajnówce. „Przegląd Powszechny" (W-wa), Nr 2/1986 r., s. 24—25.

Wanda Erbetowska — Jak to się stało? (Życie kulturalne w gminie Bielsk Podlaski). „Życie Partii" (W-wa), Nr 11/1986 r., s. 19.

Józef Jan Kuźmiński — Udział personelu medycznego Białostocczyzny w Kampanii Wrześniowej 1939 r. „Medycyna, Dydaktyka, Wychowanie" (W-wa), Nr 3—4/1984 r., s. 141—146.

Mieczysław R. Olbromski — Ślady „Burego" usłane trupami. (Walki bratobójcze na Białostocczyźnie). „Rzeczywistość" (W-wa), Nr 20/1986 r., s. 1, 6.

Andrzej Jagusiewicz — Chronić czy przekształcać? (Projekt Biebrzańskiego Parku Krajobrazowego). „Przegląd Techniczny" (W-wa), nr 20/1986 r., s. 20—21.

Czesław Łapicz — Tatarzy białostoccy na rozdrożu kultur. „Białostocczyzna" (Białystok, Nr 1/1986 r., s. 9—13.

Zygmunt Kosztyła — Z dziejów zamku tykocińskiego. Jak wyżej..., s. 14—18.

Irena Grochowska — Zbiór kalwiński w Sidrze na początku XVIII w. J.w., s. 19—21.

Henryk Majecki — Konferencja naukowa poświęcona polsko-litewsko-białoruskim związkom historycznym i kulturowym. J.w., s. 39.

## З СУДА

Раённы суд у Бельску Падляшскім разглядаў, між іншым, карную справу супроць Рышарда-Януша Вроны і Юзафа Кармана. Абодва яны захацелі разбагацець зладзейскім спосабам. Рышард-Януш Врона ўзламаўся ў чэрвені гэтага года ў краму з радыётэхнічнымі таварамі ў Гайнаўцы. Плён гэтай ягонай зладзейскай вылазкі ацанілі на 237.500 злотых.

Юзаф Карман быў крыху скрамнейшы, а можа менш шчаслівы ў сваіх зладзейскіх апетытах. Магчыма таму, што не першы раз даводзілася яму сягаць па чужое дабро. Ён сцягнуў толькі адзін магнітафон, але вартасцю ў 62 тысячы злотых.

Суд поўнасцю пацвердзіў закіды, пастаўленыя пракурорам у адрас абодвух зладзеяў. Рышард-Януш Врона атрымаў прысуд: 2 гады і 6 месяцаў турмы, 250 тысяч злотых штрафу і поўная канфіскацыя ўсёй яго маёмасці.

Юзафа Кармана засудзілі на 2 гады турмы, 100 тысяч штрафу і 3-гадовы абавязковы кураторскі нагляд. Пасля заканчэння судовага пакарання ён абавязаны паступіць недзе на працу ў дзяржаўнай або спулдзельчай установе і адмовіцца ад злоўжывання алкагольнымі напіткамі.

Што ж, хай усе іншыя ведаюць, што на чужым не заўжды разжывешся.

Летам, у чэрвені 1986 года, пасварыліся ў Страблі два браты: Стась і Эдзік. Дзеля праўды, дык варта ведаць, што не былі яны роднымі братамі, бо мелі розных бацькоў, а толькі адну маці. Стась піхнуў Эдзіка нажом у бок, ад чаго той ледзь не развітаўся з белым светам, бо лекарам шмат чаго давялося сшываць і рамантаваць у яго ўнутраных органах.

Вядомы ўжо прысуд Раённага суда ў Бельску Падляшскім па гэтай справе. Ён, як для брата, — усяго ледзь на адзін год, а надабавак яшчэ залічаны брату Стасю час яго прабывання пад часовым арыштам. Значыць, цераз паўгода браты зноў сустрэнуцца дома. Адзін вярнуўся з бальніцы, а другі з турмы. Цікава, як гэты судовы вопыт адаб'ецца на ўзаемных братэрскіх зносінах? Варта яшчэ ведаць, што брат Стась абавязаны заплаціць 30 тысяч злотых на грамадскі фонд.

З суда шмат яшчэ аб чым нам паведамілі, але сёння хопіць і гэтага. Ну, з малой дабаўкай. Памятаеце гэтую гісторыю пра 84-гадовую бабульку, якую прымусіў да палавых зносін яе ўнучак. Вось за гэта суд у Беластоку прысудзіў яго да 3-гадовага турэмнага зняволення. На дабавак ён абавязаны ўплаціць 25 тысяч злотых на грамадскі фонд і 20 тысяч злотых сваёй бабулі за маральныя крыўды.

**Судамір Параграфчык**

### ВЯРХОМ НА ЛЬВЕ

Леў кінуўся з кустоў настолькі нечакана, што паляўнічы не паспеў нават ускінуць ружжо. У акрабатычным скачку чалавек учапіўся за грыву драпежніка і апынуўся ў яго на спіне. Цар звяроў, і без таго настроены крыважадна, раз'юшыўся яшчэ больш, калі зразумеў, што аседлаўшая яго ахвяра недасягальная. На шчасце няўдачнага паляўнічага яго крыкі пачулі людзі, якія знаходзіліся паблізу і паспяшаліся на дапамогу. Гэты выпадак адбыўся ў раёне Тундуру на поўдні Танзаніі.

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## УХА

Ліпеньскі дзень доўгі. З неба лілася знясільваючая спёка. Змучаны двухсоткіламетровай дарогай ды вандроўкай па алеях і сцяжынках трох братніх рэспублік, якія вядуць да Кургана дружбы, я прысеў на лавачцы з „беларускага боку" і здалёк, з-за рэчкі Сіняй, узіраўся ў гэты кучаравы дуб, што красаваўся на вяршыні зялёнага копчыка зямлі, усыпанага чалавечымі рукамі пасярэдзіне невялікай лясной паляны, далёкавата ад праязных дарог, у глыбіні азёрнага і лясного краю. Спадабаўся мне гэты няхітры помнік чалавечай памяці і сапраўднай дружбы. Афіцыйна лічыцца, што адкрыты ён 3 ліпеня 1959 года. Але гэтая дата абазначае толькі тое, што тады, у 15-ую гадавіну ад дня вызвалення гэтых мясцін, адміністрацыйныя ўлады трох суседніх рэспублік, сапраўды праявілі сваю дзелавую цікаўнасць да Кургана дружбы. На самай справе ён ужо існаваў. Узнік з патрэбы сэрца ветэранаў, якія ў партызанскіх атрадах у гэтым братнім краі змагаліся з гітлераўскімі захопнікамі. У лясной глушы, побач са збуцвелай партызанскай зямлянкай, збіраліся яны, даўнейшыя партызаны, распальвалі вогнішча і за сяброўскай чаркай, пад песню *„Ішлі ў бой партызаны"*, ўспаміналі сваіх паўшых і жывых таварышоў. І ў гэтых сяброўскіх гутарках якраз і ўзнікла думка, каб на месцы гэтых збораў, дзе сутыкаюцца межы трох братніх рэспублік, уласнымі рукамі насыпаць курган, паўтарыць старажытны звычай славянскіх дружыннікаў, якія менавіта сыпалі курганы, калі адпраўлялі на вечны спачын сваіх князёў- ваяводаў, ці сяброў-



**Тры нацыянальныя сцягі — трох братніх рэспублік. Сцяганосцы — у народных уборах, іх асістэнткі-прыгажуні таксама апрануты па-нацыянальнаму, ды яшчэ з букецікамі кветак, характэрных для сваёй бацькаўшчыны.**

вояў. І так узнік гэты Курган дружбы з дубчыкам на верхавіне... Ужо пазней мастакі і архітэктары ўпрыгожылі яго на ўласны лад, а па-суседску паявіліся спадарожныя аб'екты, між іншым, музейны павільён, які знаёміць наведвальнікаў з гісторыяй партызанскага краю, амфітэатр і эстрада для выступлення мастацкіх калектываў, пракладзены былі таксама тры

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Група вучняў старэйшых класаў школы падставовай у Дубічах Царкоўных. Усе яны выдатнікі і па беларускай мове.

Фота Я. Чэрнякевіч

Рыхтуемся да ёлкі

## ПРЫХОДЗЬ, ЁЛКА!

Заканчэнне.

Пачатак у папярэдніх нумарах.

**Дзед Мароз.** Ну што ж, калі б не Пецеў учынак, было б усё ў парадку. Цацкі ёсць, ёлка ёсць... А што нам з Пецем рабіць? Не возьмем мы яго на ёлку.

**Снягурачка.** А мне шкада Пецю. Можа, даруем яму?

**Лясун.** Я дараваў бы яму пры адной умове. *(Да Пеці.)* Калі пачнецца веснавая пасадка, прыдзеш у лес і пасадзіш пяцьдзесят маленькіх елачак.

**Снягурачка.** Цэлы лес! Цудоўна!

**Пеця.** Я прыду са сваёй ёлачнай камісіяй.

**Дзед Мароз.** Бач ты, хітрун. Ведае, калі камісію на дапамогу запрашаць.

**Пеця.** Дык возьмеце мяне на ёлку?

**Дзед Мароз.** Пачакай. Зараз мы ў дзяцей запытаем, ці даруюць табе.

**Снягурачка** *(у залу).* Дзеці, як вы думаеце, даруем Снягурчыку, гэта значыць, Пецю?

*Дзеці адказваюць.*

**Дзед Мароз.** Ну дык цяпер — на навагоднее свята, а то спознімся.

**Снягурачка.** Дзядуля, перанясі нас за тры мінуты на чароўнай ракеце.

**Дзед Мароз.** Тады пайшлі выбіраць палянку шырэйшую, і праз тры мінуты...

*Выходзяць. Занавес зачыняецца.*

### КАРЦІНА ЧАЦВЕРТАЯ.

*На авансцэне перад занавесам Дзед Мароз.*

**Дзед Мароз.** Вось мы і дабраліся да ёлачнага свята. Чаго нам яшчэ не хапае для весялосці? Удзельнікі прадстаўлення ўсе на месцы, гледачы на месцы, а нам не хапае прыбранай ёлкі. А не дарма ж наша свята называецца... як, дзеці?

*Дзеці адказваюць.*

Прыгажуня-зеляпуха!
У зімовы ціхі вечар
Ты, чароўная, паслухай
І прыдзі к нам на сустрэчу.
Уся зала з нецярпеннем
Ёлачку чакае ў госці.
Мы ўсе дружна цябе просім:

*(Разам з залай.)*

Прыходзь, ёлка!
Прыходзь, ёлка!
Прыходзь, ёлка!

*Занавес адчыняецца. На сцэне — упрыгожаная ёлка. Снягурачка вешае апошнюю цацку.*

**Пеця.** Якая ёлачка! Якая прыгажуня! Колькі цацак! Зараз я буду танцаваць.

**Дзед Мароз.** Чаму я, а не мы? Ці не рана ты танцаваць сабраўся?

**Пеця.** Не рана, дзядуля. Ёлка ўжо прыбрана, час запальваць свечкі.

**Дзед Мароз.** Вядома, час. Толькі я хачу ўсім прыпомніць: ёлка ў нас чароўная. І таму, калі будуць запальвацца лямпачкі, кожны можа задумаць сабе жаданне. Яно абавязкова споўніцца.

**Пеця.** У мяне ёсць жаданне!

**Снягурачка.** Ах ты, Пеця. Зноў „мне" ды „у мяне". Трэба спачатку ў дзяцей спытаць.

**Дзед Мароз** *(у залу).* Дзеці, а ў вас ёсць жаданні?

*Дзеці адказваюць.*

**Пеця** *(падымае руку).* А цяпер, дзядуля, можна мне сказаць?

**Дзед Мароз.** Калі ласка, Якая ў цябе мара?

**Пеця.** Я, дзядуля, мару быць шафёрам самай вялікай машыны.

**Дзед Мароз.** Добрае жаданне, але для гэтага трэба вучыцца.

**Снягурачка.** І правілы руху ведаць.

**Пеця.** Правілы руху я даўно вывучыў. І цябе, дзядуля, магу навучыць.

**Дзед Мароз.** Мяне вучыць не трэба.

*У зале паяўляецца Клоун.*

**Пеця.** Тады Снягурачку.

**Снягурачка.** А я ведаю правілы. Ужо даўно вывучыла.

**Дзед Мароз** *(у залу).* А вы, дзеці, ведаеце правілы руху на дарогах?

*Дзеці адказваюць.*

**Клоун** *(падбягаючы да авансцэны).* Усе вы ведаеце правілы дарожнага руху, а я вучыў, вучыў, вучыў... і нічагуткі не вывучыў! Нават на вуліцу баюся выходзіць.

**Пеця.** Гэ, ты такі вялікі і не ведаеш! Добра, буду цябе вучыць. А Снягурачка з дзецьмі мне дапамогуць.

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Мікола Ганчароў

### ТВАЯ КНІЖКА

Вось кніжка прыйшла
Да цябе на парог.
А колькі прыйшлося
Ёй зведаць дарог!

Свой шлях пачала яна
Тут, за сталом.
Пісаў яе аўтар
І ноччу і днём.
Старонка ляцела
Услед за старонкай,
І ціхае слова
Рабілася звонкім.

Нястомна машынка
Пасля стракатала.
Ў рэдакцыі
Рукапіс той прачыталі.
А потым малюнкі
Мастак маляваў.
Радкі у друкарні
Наборшчык набраў.

Стараліся
Ў цэху друкарскім
Машыны,
Лажыліся ў стосік
Старонкі няспынна.

Пасля іх у кнігі
Умела сшывалі.
Ў касцюмчыкі вокладак
Паапраналі.

За кніжкаю кніжка
У свет паляцелі.
І весела вокладкі іх
Зіхацелі.

Хацелі ў твой дом
Прыляцець як хутчэй,
Каб стала на сэрцы
І ў доме святлей.

Вунь поле баразнаў
Радкамі світае —
Ты кніжкі цікавай
Старонкі гартаеш.

І ў далеч бязмежную,
Недзе за хмары,
На крылах імклівых
Імчаць цябе мары.

### КАСМАНАЎТАМ БЫЦЬ ХАЧУ

Касманаўтам быць хачу.
Прама ў космас
Палячу.
Панясе мяне
Ракета
На суседнія планеты.
А пасля
На заркалёце,
На чароўным
Касмалёце,
Я на Марс
Яшчэ злятаю,
Зоркі зблізку
Прывітаю.
Ды шкада,
Чакаць так доўга.
„Падрасці!" —
Мне кажуць дома.

З рускай мовы пераклаў
Казімір Камейша

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### КІЕЎСКАЯ РУСЬ ПРЫ УЛАДЗІМІРУ І ЯРАСЛАВЕ

Адразу пасля званка на перапынак пяцікласнікі заспяшаліся. Хлопцы пабеглі за апаратурай і праз момант прыімчалі з васьмікласнікамі праектар і карабкі з фільмам ды пачалі ўстанаўліваць усё. Дзяўчынкі заняліся экранам, завешвалі вокны. Хоць хлопцам нешта не ладзілася ў апараце, а дзяўчынкам, як на злосць, зацялася штора на акне, аднак усё неяк уладкавалася. Калі зазвінеў званок і ў клас увайшла настаўніца, усё было гатова.

Спачатку, вядома, было апытанне з папярэдніх урокаў, а потым настаўніца сказала:

— Сёння будзем глядзець фільм „Кіеўская Русь пры Уладзіміру і Яраславе". Глядзіце яго ўважліва і знайдзіце адказы на пытанні, якія зараз вам падам.

Яна папрасіла Тасю запісаць на дошцы:

„1. Калі і як адбылося прынняцце хрысціянства Кіеўскай Руссю і якое яно мела значэнне для ўсходніх славян?

2. Як за панавання Уладзіміра і Яраслава развівалася гаспадарка і культура на землях Кіеўскай Русі?

3. Што вы даведаліся пра „Аповесць мінулых часоў" і „Праўду Яраслава"?"

Калі пытанні былі ўжо ў вучнёўскіх сшытках, пачаўся фільм. І са здымкаў, і з апавядання дыктара вучні даведаліся, што за панавання Уладзіміра і яго сына Яраслава Кіеўская Русь дасягнула найбольшай моцы і росквіту, стала адной з магутнейшых краін у Еўропе. Тады сярод большасці князёў, вяльможаў і вояў пачало пашырацца хрысціянскае веравызнанне. **У 988** годзе князь Уладзімір сам прыняў ад Візантыі хрысціянства, і ад таго моманту пачалося ў Кіеўскай Русі хрышчэнне ўсяго насельніцтва. Увядзенне і ўмацаванне новай рэлігіі ў аграмаднай дзяржаве працягвалася доўга. Спачатку будаваліся цэрквы, прызначаліся святчэннікі і адбываліся багаслужэнні ў сталіцах княстваў, затым хрысціянства замацоўвалася ў меншых гарадах і найпазней у вёсках. Простыя людзі ў глухіх мясцінах яшчэ доўга патаемна верылі ў ранейшых язычаскіх багоў і нярэдка бунтаваліся супраць новай веры.

Увядзенне хрысціянства мела вялікае значэнне для ўсходніх славян. Адзіная вера спрыяла ўмацаванню еднасці дзяржавы, цясней збліжала ўсходніх славян з іншымі народамі, дзе яно было пануючай рэлігіяй. Разам з пашырэннем хрысціянства на землях Кіеўскай Русі пачала распаўсюджвацца пісьменнасць, складаліся пісаныя законы, пісаліся хронікі і перапісваліся кнігі, буйней развіваліся розныя мастацтвы: архітэктура, жывапіс, музыка.

**Працяг у наступным нумары**




### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Пішa да вас вучаніца шостага класа са школы ў Гародчыне Агнешка Сельвеструк. Я хачу вам напісаць аб тым, што я раблю дома і аб сваёй школе. У нашым класе вучыцца шэсць чалавек — чатыры дзяўчынкі і два хлопцы. Мы стараемся добра вучыцца. Вельмі любім вывучаць беларускую мову. Нас вучыць яе настаўніца Ірэна Юрчук. Мы часта чытаем „Ніву" і „Зорку". Некаторыя з нас пісалі вершы да „Нівы".

Я вельмі люблю беларускую мову і люблю вучыць на памяць вершы. Нашая настаўніца Ірына Юрчук сказала мне, што я магу ехаць на дэкламатарскі конкурс. Я ўцешылася і згадзілася. Са мною паедзе яшчэ хлопчык Мірэк Паўлючук, ён таксама прыгожа дэкламуе вершы. У кожную суботу мы ходзім на гурток беларускай мовы. Настаўніца чытае нам казкі, расказвае іх, мы пішам вершы, якія думаем выслаць да „Нівы".

Дома я часта памагаю маме. Вельмі люблю звяроў. У мяне ёсць сабачка па клічцы Азор. З ім часта гуляю і бегаю. Ёсць у мяне таксама кот, які мне вельмі падабаецца.

Асабліва я люблю чытаць кнігі. Ужо многа іх прачытала. Усе яны вельмі цікавыя. Яшчэ я люблю спяваць. Мне найбольш падабаецца калектыў „Дубіны". У кожную суботу ўсёй сям'ёй мы слухаем беларускую перадачу, і мне вельмі радасна, калі спявае калектыў з Дубін. З зацікаўленнем слухаю і іншыя песні. Мы ў школе іх часта спяваем.

З прывітаннем
**Агнешка з Гародчыны.**




**З пададзеных кавалачкаў складзі карцінку.**

# ПРЫХОДЗЬ, ЁЛКА!

**(Працяг са стар. 9)**

Снягурачка. *(У залу).* Дапаможам, дзеці?

*Дзеці адказваюць.*

Пеця. Толькі мне наглядны дапаможнік патрэбны.

Дзед Мароз. Зараз будзе. *(Прыносіць з-за куліс светафор, каляровыя шкелкі якога выразаны ў форме: чырвонае — памідора, жоўтае — лімона, зялёнае — агурка.)*

Пеця *(Клоуну).* Цяпер давай вывучаць правілы. Толькі слухай уважліва.

Калі свеціць светафор
Як чырвоны памідор,
Значыць, СТОП! —
Закрыты рух, —
Не спяшай, чакай,
Хлапчук!

*Пад кіраўніцтвам Снягурачкі дзеці паўтараюць страфу.*

Добра, пайшлі далей.

Памідора больш няма,
Угледаешся дарма,
Стаў ён жоўтым, як лімон.
„Падрыхтуйся!" — кажа ён.

*Усе паўтараюць страфу.*

*(Клоуну.)* Вывучыў?

Клоун. Вывучыў. Пабягу хутчэй вуліцу пераходзіць.

Пеця. Пачакай. Спачатку адкажы ўрок.

Клоун. Запраста.

Пеця. Значыць, так. *(Паказвае.)* Тут вуліца. Ты стаіш на ходніку. Гарыць чырвонае святло. *(На светафоры запальваецца чырвоны колер.)*

Клоун *(радасна).* Агурок!

Дзед Мароз. Трапіў, як пальцам у неба. *(Смяецца.)* Дзе ж тут агурок?

Пеця *(у залу).* Скажыце, дзеці, чырвоныя агуркі бываюць?

*Дзеці адказваюць.*

Снягурачка *(Клоуну).* Памятай: чырвоны — памідор. Значыць, СТОП! — закрыты рух, не спяшай, пастой, хлапчук!

Пеця. Бо машына саб'е.

Клоун. А дзе машына? Пакажы!

Пеця. А вось я табе пакажу...

*Шукае нечага на сцэне, знаходзіць палку. Клоун спалохана прысядае, але Пеця згінае палку ў кола (яна гумовая) і, круцячы, як руль, падаючы сігналы, як машына, едзе нібы па вуліцы. Клоун ідзе на чырвоны колер, Пеця „наязджае" на яго і збівае з ног. Дзед Мароз і Снягурачка смяюцца.*

Клоун *(устаючы, абтрэсваючыся).* Ты чаго папіхаешся?

Пеця. Я не папіхаюся. Гэта я на цябе наехаў.

Клоун. Наехаў? За што?

Дзед Мароз. За тое, што ты пайшоў на чырвоны колер.

Снягурачка *(у залу).* Дык як, дзеці, добра Клоун адказаў?

*Дзеці адказваюць.*

Пеця. Стаўлю двойку.

Клоун. Табе добра, у цябе свая машына... Пазыч мне яе!

Пеця. А ты правілы дарожнага руху вывучыў?

Клоун. Вывучыў, вывучыў. Вялікія там правілы: агурок, лімон, моркаўка. Вылазь з машыны!

*Клоун забраў у Пеці „руль" і абодва становяцца на выхадныя пазіцыі. Перад Пецем запальваецца зялёнае святло, а Клоун, падражаючы машыне, „едзе" на чырвонае. У выніку яны сутыкаюцца. Гэтым разам „пешы" збівае „машыну."*

Дзед Мароз. Зноў сутыкнуліся!

Клоун *(устаючы).* Ты зноў пхаешся!

Пеця. А ты зноў на чырвонае святло?

Клоун. Ты „пешы", а „машыну" збіў.

Пеця. Не машыну, а двоечніка ў машыне.

Клоун. Я хачу двойку выправіць.

Дзед Мароз. Каб выправіць двойку, трэба вывучыць правілы дарожнага руху.

*Снягурачка падае Клоуну кнігу з вялікім надпісам „Правілы".*

Клоун *(чытае)*

Кніга гэта прызначаецца
Тым, што правіл не шануюць.
Не пускаць такіх на вуліцу,
У хаце хай сядзяць, сумуюць.

Не, я не хачу сумаваць у хаце. Давай, я другі раз буду адказваць. Кажы, кім ты будзеш: „пешым" ці „машынай"?

Пеця. Не „пешым" і не „машынай", а „пасажырам". *(Нечакана ўскаквае на рукі Клоуну.)* Вязі мяне вакол ёлкі!

*Клоун бяжыць з Пецем на руках.*

Дзед Мароз. Пеця, ты зноў кепска сябе вядзеш.

Пеця. Дзядзька Клоун зусім не злуецца...

Дзед Мароз. Не сорам такому вялікаму хлопцу на руках прасіцца?

Пеця. Дзядуля Мароз.. Дзядзька Клоун толькі трошкі мяне павозіць...

Дзед Мароз. Я лепш цябе потым паважу на рэактыўных санках.

Пеця *(саскаквае з рук Клоуна).* На якіх рэактыўных?

Дзед Мароз. А на тых, на якіх я ўсю краіну абляцеў, усюды пабываў і да вас на ёлку паспеў. *(У залу.)* А цяпер, дзеці, загадаем ёлцы загарэцца лямпачкамі.

Снягурачка *(разам з усёй залай).* Загарыся, ёлка!

*Урачысты марш. Ёлка загараецца.*

Снягурачка.
Колькі свечак загарэлася!
Аж спяваць нам захацелася!..

Пеця. І спяваць, і танцаваць...

Клоун. І смяяцца ўсім на „пяць"!

Дзед Мароз.
У навагодні карагод
Станавіся ўвесь народ!

*На сцэну выходзяць усе дзеці, якія ўдзельнічаюць у канцэрце. Бяруцца за рукі, ходзяць і спяваюць. Потым працягваецца канцэрт. Пасля гэтага Дзед Мароз раздае дзецям падарункі.*

**Канец**


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 27 снежня а 18-й гадзіне.

### НА ВУЛІЦЫ МОКРА

**(З рэпертуару Леаніда Барткевіча)**

**На вуліцы мокра, а на ганку суха.**
**Выйдзі, выйдзі да мяне ты, мая харашуха.**
**Ох, выйдзі, выйдзі, ох, выйдзі, выйдзі!**
**Выйдзі, выйдзі да мяне ты, мая харашуха.**

**Ехаў да цябе я цераз чыста поле,**
**Сустракалі мяне дзеўкі ў зялёнай дуброве.**
**Ох, сустракалі, ох, сустракалі,**
**Сустракалі мяне дзеўкі ў зялёнай дуброве.**

**Адна дзеўка Ганна, другая Мар'янна**
**А ты лепшая з іх, ды мая ты кахана,**
**Ох, ды кахана, ох, ды кахана!**
**А ты лепшая ад іх, ды мая ты кахана.**

**Покуль гаварылі, коней прытамілі;**
**Я паеду да каханай — здаровенькі былі!**
**Ох, я паеду, ох, я паеду,**
**Я паеду да каханай, здаровенькі былі!**

**На вуліцы мокра, а на ганку суха.**
**Выйдзі, выйдзі да мяне ты, мая харашуха.**
**Ох, выйдзі, выйдзі, ох, выйдзі, выйдзі!**
**Выйдзі, выйдзі да мяне, ты мая харашуха.**



**Мадэрнізацыя.**






**— А дзе Рэкс?**
**— Новы год сустракае!**

### ІНШАЯ ПРЫЧЫНА

— Ты, мабыць, недзе прастудзіўся, што пазатыкаў вушы ватай?

— Не, гэта не ад прастуды, а ад дрэннай звычкі.

— Як гэта разумець?

— Вельмі проста. У мяне ёсць дрэнная звычка — барабаніць па стале пальцамі, а гэта мне вельмі дзейнічае на нервы.

### АПЯРЭДЗІЛІ

— Чаго ты мучышся? — супакойвае перад экзаменам студэнта яго таварыш па кансерваторыі.

— Вазьмі творы свайго настаўніка, перапішы іх наадварот — з канца да пачатку — і гатова!

— Спрабаваў, — кажа студэнт, — вальсы Шуберта выходзяць.

### ЧУТКІ СЫН

— Васіль, табе калядная тэлеграма ад бацькоў.

— Ты глядзі, як хутка час ляціць! Я яшчэ і на вялікодную не паспеў адказаць.

### ПАРАІЎ

— Дарагі, якую маску ты мне параіш для маскараду?

— Вельмі простую: не надзявай парык, не рабі макіяжу, не накладвай фальшывых веек, і... цябе ніхто не пазнае.

### ДАЛІКАТНЫ ЗЯЦЬ

Прыехала цёшча да зяця ды й гасціла дзень, другі. А на трэці пытае:

— Не абрыдла я яшчэ вам? Можа, ехаць ужо дадому?

— Ды не, нё абрыдлі, — адказвае зяць. — Але калі хочаце, можаце ехаць — я вось ужо і білет купіў.

Паспрабуй узяць сябе ў рукі, калі да іх усё прыліпае.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пер і Хільмер імчаліся ў аўтамабілі, баючыся спазніцца на сустрэчу Новага года. Яны пад'ехалі да чыгуначнага пераезду.

— Ты глядзі направа, — выпаліў Хільмер, — а я буду глядзець налева, каб не наляцець на цягнік!

Праз нейкую секунду пачуўся дзікі грукат, а, калі сябры выбраліся з-пад абломкаў, Хільмер сказаў:

— Трэба было глядзець яшчэ і наперад, тады б мы прыкмецілі, што шлагбаум закрыты!

*

У Нью-Йорку судзяць буйнага гангстэра. Славуты адвакат доўга і красамоўна расказвае, які крышталъна чысты чалавек яго падабаронны. Урэшце злачынца не вытрымлівае і крычыць:

— У чым справа? Я заплаціў яму сто тысяч, а ён бароніць кагосьці яшчэ!!

### ПРАГРЭС

Глядзеў памочнік колькі год
З усмешкай шэфу прама
ў рот.
Уладкаваўшыся пры ім
дзівосна,
Яго паслуг шэф не забыў.
Сваім намеснікам зрабіў —
І ўжо ён шэфу ў рот
глядзіць сур'ёзна.
Быў падхалімам, ім жа
і застаўся,
А ўяўляе — перабудаваўся.

**Васіль Маеўскі**

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### АБ ПАГОДЗЕ

Па звестках сіноптыкаў, у будучым годзе чакаюцца зіма, вясна, лета і восень. Магчымы кароткатэрміновыяападкі, працяглыя дажджы, дзенедзе навальніцы, снегапады, завірухі, адлігі. У некаторых раёнах зямнога шара — землетрасенні і вывяржэнні вулканаў. У іншых раёнах галалёд, ледаход, лістапад, прылёт і адлёт птушак, часам гарачая сухая пагода. Тэмпература ў граніцах нормы.

**З суседскага агародчыка.**




**— Дырэктар заняты, пазваніце пазней.**










### У САЛАУХІНА

У Парыжы я аднойчы сядзеў у цырульні, мяне стрыглі. Пры дапамозе двух-трох слоў мы ўсё ж перагаварваліся з цырульнікам. Даведаўшыся, што я рускі, з Масквы, цырульнік дапытваўся, хто я па прафесіі.

— Дыпламат?

— Не.

— Гандаль?

— Не.

— Медыцына?

— Не.

Урэшце я вырашыў прызнацца, што я пісьменнік і нават паэт.

— О! Паэт! — усклікнуў цырульнік узрадавана. — Еў-ту-шэн-ка!

Канечне, мяне асабіста ён не ўзяў за Еўтушэнка, але вось, значыць руская паэзія замыкалася ў яго на гэтым імені.

— Ды вы чыталі Еўтушэнка хоць адзін верш?

— О не, не, канечне, я нічога не чытаў, але — Еў-ту-шэн-ка!

### БУДЗЬЦЕ СПАКОЙНЫ

У парашутным аддзяленні аднаго са швейцарскіх спартыўных магазінаў вісіць такая рэкламная аб'ява-запэўненне: „Калі прыдбаны вамі ў нашым магазіне парашут не раскрыецца, вы можаце яго абмяняць на новы ў любы час".




**Калі бярэш сябе ў рукі, правая рука павінна ведаць, што робіць левая.**